8 ЧЭРВЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№62 (593) КОШТ СВАБОДНЫ



# «Коготь» па-беларуску

## У Інтэрнэце з'явіліся спісы курсантаў КДБ



Фота IREX/ProMedia

Практычныя заняткі па асновах канспірацыі

**Іван БАБІЧАЎ**

**Спісы курсантаў мінскай школы КДБ з'явіліся днямі у Інтэрнэце. На серверы бясплатных хатніх старонак кампаніі Internettrash па адрасе http://internettrash.com/users/biomass/ можна азнаёміцца з двума спісамі, у якіх пазначаныя 35 і 32 прозвішчы курсантаў 1977-79 гадоў нараджэння. Там жа можна знайсці і іхнія хатнія адрасы.**

Трое з курсантаў, па версіі аўтара старонкі, сумяшчаюць навучанне ў школе КДБ з навучаннем у МВТУ, ПТВ-63 і МТСМ. Што такое ПТВ-63 —зразумела, а вось астатнія дзве абрэвіятуры можна расшыфроўваць па-свойму. Сусветная сетка, яе расійская частка ведаюць нямала выпадкаў з'яўлення рознага роду сакрэтнай інфармацыі і кампраматy — прыгадаць хаця б вядомы праект «Коготь», пра які НАВІНЫ пісалі зусім нядаўна. Аднак з'яўленне падобнай інфармацыі, якая датычыцца нашай краіны, — выпадак надзвычайны. Пакуль можна толькі гадаць, якіх мэтаў дабіваецца чалавек, які паведаміў службовую інфармацыю ў камп'ютэрную сетку. Ён, дарэчы, не называе свайго імя. Не дзіва — гэтая інфармацыя, калі яна адпавядае рэчаіснасці, з'яўляецца выключна службовай і распаўсюджанню не падлягае. ■

# ДЗЕВЯЦЬ ДЗЁН ПАСЛЯ ТРАГЕДЫІ НА НЯМІЗЕ. АХВЯРЫ ПАХАВАНЫЯ. ВІНАВАТЫЯ НЕ ЗНАЙШЛІСЯ.

ПОШТА

## Нам нужен президент с ясной головой и добрым сердцем!

***Уважаемая редакция, просим напечатать наше письмо!***

Случилась страшная трагедия. Опять нет виновных, все свалили на стихию. Если нет конкретных виновников, то виновата система власти. Во всех странах бывают стихийные бедствия, но такой безответственности, как у нас, нигде нет. И нас, матерей, не интересуют ваши шрамы на сердце, товарищ президент, и тонны писем из всех стран с соболезнованиями. Письма должны идти с осуждением за безответственность. Средневековые рассуждения об обреченности народа перед Богом и природой неуместны. На Бога надейся, да сам не плошай, у хорошего хозяина все предусмотрено на все случаи жизни, и нам нужен президент с ясной головой и добрым заботливым сердцем. Пока этого не видно.

В этот воскресный день с утра не берегу реки проводился праздник «Траецкі кірмаш». Праздник города». Готовили его больше года. Открывать его должен был мэр города Ермошин. Не пришел, и никого не было от горисполкома. Только молодежь прибегала на эту сторону от Дворца спорта с пивными крышечками, говорили, кто больше выпьет и соберет крышек, тому бесплатно дадут пива. Уже с утра спаивали молодежь глупым конкурсом. Не было вечером никого ни из горисполкома, ни от культуры на другом празднике города у Дворца спорта, лучше нашим чиновникам провести день на дачах, банях и охотах.

А ведь за границей многие мэры или их помощники приходят хоть ненадолго на праздник, чтобы показать, что они со своим народом вместе и в праздники, и в будни. У нас же подмахнул разрешение на праздник, выставил пару десятков ОМОНовцев — и вся забота о людях. А ведь собирая массовые гулянья, все надо предусмотреть: и стихию, и возможное землетрясение, и ракету с неба, и террористический акт, и взорвавшуюся бомбу. Все может быть, в такой век мы живем. Техники безопасности у нас никакой. Почему милиция во время дождя не пустила в стеклянные двери метро? Почему не разрешала во время стихии в виде исключения садиться в проезжающие машины? Почему не было навесов, хотя дождь передали с утра? И почему такие два культурных учреждения, как Дворец спорта и Дом физкультуры, как саркофаги, стояли с задраенными дверями во время массового гулянья. Почему не открыли двери и не объявили, что на нижнем этаже можно попить воды, сходить в туалет, получить медицинскую помощь? Ведь среди людей были и беременные женщины, и больные, да и просто пьяные. Хотя у многих из молодежи нет денег даже на стакан минеральной воды, полуголодные, они идут на праздник, ищут сближения, контактов, на то она и молодежь. ▶

*Окончание на стр.3*



Фота Ул.ШЛАПАКА

«Не можете обеспечить безопасность ни в политике, ни в экономике, ни в жизни — уходите, дайте дорогу другим!»

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### На месцы трагедыі будзе памятны знак

Прэзідэнт А.Лукашэнка даручыў сваёй адміністрацыі і ўпраўленню справамі паклапаціцца аб тым, каб ля ўваходу на станцыю метро «Няміга» — на месцы трагедыі, што адбылася ў Мінску 30 траўня, — быў збудаваны памятны знак. Для распрацоўкі праекта будзе створана спецыяльная група пры Мінскім гарвыканкаме. Знак плануецца ўстанавіць на 40 дзён з моманту трагічных падзеяў.

***Аддзел інфармацыі***

### Брэсцкае марожанае паедзе ў Чэхію

Да 17 тон марожанага некалькіх гатункаў штотыднёва будзе адпраўляць у Чэхію брэсцкая вытворчая фірма «Марожанае». Заключэнне такога выгаднага кантракта стала магчымым дзякуючы поспехам і добраму іміджу фірмы: у тэндэры на пастаўку бралі ўдзел 2 расійскія, 1 украінскае і 1 чэшскае прадпрыемствы, аднак перавага ўсё ж такі была аддадзеная брэстчанам.

***Валянціна КАЗЛОВІЧ***

### Новым генсеком ОБСЕ станет словак

Как сообщают информационные агентства, представитель Словакии Ян Кубиш 15 июня займет пост Генерального секретаря Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе. До этого он занимал должность Специального представителя Генерального секретаря ООН по Таджикистану.

***Отдел информации***



НАДВОР'Е




**9 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер паўднёва-ўсходні 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 13—18 градусаў, па **Гродзенскай** і **Брэсцкай** абласцях 14—19 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ



## Тычкі гісторыі

Сто гадоў назад, калі Расія святкавала 100-я ўгодкі з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, у Мінску першай публічнай бібліятэцы было нададзена яго імя.

Зараз, калі Расія святкуе 200-гадовы юбілей свайго нацыянальнага паэтычнага генія, Мінск ушаноўвае памяць расійскага паэта ўрачыстым адкрыццём помніка.

За час, прамінулы паміж гэтымі юбілейнымі тычкамі, імя А.Пушкіна было нададзенае на Беларусі педінстытуту, педагагічнаму і бібліятэчнаму тэхнікумам, 12 бібліятэкам, 2 скверам, 2 праспектам, 109 вуліцам у гарадах і пасёлках, 22 вясковым вуліцам, 6 завулкам, 1 масту, 3 калгасам. А ўсяго разам імя паэта носяць 166 аб'ектаў. Мы — адзіная краіна ў свеце, якая засведчыла любоў да Пушкіна такой колькасцю шыльдаў.

Цяжка ўразумець, чаму пад помнік выдзеленае месца на беразе Свіслачы паблізу гатэля «Беларусь», адкуль бронзавы паэт будзе глядзець цераз раку на праспект Машэрава і Палац спорту. Няўжо дзеля банальнай сімволікі — Пушкін і «Беларусь»? Па логіцы, помнік павінен быў паўстаць перад бібліятэкай, якая носіць імя паэта. Але там замест помніка абсталяваная платная аўтастаянка, якая сведчыць пра абыякавасць беларускіх уладаў да аўтара «Пира во время чумы».

Відавочна, што ў сённяшніх варунках ушанаванне памяці Пушкіна помнікам рэспубліканскага значэння — немудрагелістая палітычная акцыя, прызначаная засведчыць імкненне беларускага народа да хутчэйшай інтэграцыі ў Расію праз ушанаванне расійскага прыгожага пісьменства. Пушкін даўно ператвораны ў знакавую фігуру, якой карыстаюцца ў ідэалагічных мэтах. Усе назвы вуліцаў і помнікі, як усе добра ведаюць, служаць мэтам «монументальной пропаганды». Па манументальным аб'ёме прысутнасці ў Беларусі з Пушкіным можа параўнацца толькі не менш знакавы для Расіі А. В.Суворaў. Імем расійскага генералісімуса ў нас названыя 43 вуліцы ў гарадах і пасёлках, 13 вуліцаў у вёсках, 1 парк, 23 калгасы. У дзіцячым парку сядзіць на лаўцы Максім Горкі. Ля Свіслачы прысядзе Пушкін. А вядомыя на ўвесь свет і чытаемыя ў нашым народзе Шэкспір, Сервантэс, Мальер, Бальзак, Дзікенс, Прус не заахвоцілі для ўшанавання ніводзін калгас, пасёлак, горад, бібліятэку. Бо каго і ў якіх памерах трэба шанаваць народу — вырашаюць ідэалагічныя службы.

Можна толькі пашкадаваць, што сёння з прычыны юбілею імя вялікага рускага паэта аднназначна эксплуатуецца для «саюзацыі».

# «Вясну-96» спрабавалі «адключыць»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Тры дні не працаваў тэлефон праваабарончага цэнтра «Вясна-96». Як высветлілася, невядомыя перарэзалі тэлефонны провад у пад'ездзе дома, дзе размяшчаецца офіс цэнтра.

Актывісты «Вясны-96» лічаць, што наўрад ці гэта простае хуліганства. Тэлефон «вырубілі» ў сярэдзіне пятніцы, калі праваабаронцы пачалі распаўсюджваць па розных выданнях свой прэс-рэліз на тэму трагедыі 30 траўня на станцыі метро «Няміга». У гэтым пасланні паведамлялася пра дзве цікавыя высновы, што зрабілі актывісты цэнтра на падставе паказанняў сведкаў. Першае, што яшчэ пры падрыхтоўцы піўнога фестывалю і ўгодкаў радыёстанцыі «Мір» былі парушаныя пэўныя патрабаванні да масавых мерапрыемстваў. У прыватнасці, свята не было ўзгодненае з усімі службамі горада — пра гэта сцвярджаюць крыніцы з гарвыканкама, якія канфідэнцыйна звязаліся з «Вясной-96». Падругое, сабрана дастаткова паказанняў, якія сведчаць, што арганізатары свята фактычна спойвалі непаўналетнюю моладзь.

«Вясна-96» упэўненая, што гэтыя меркаванні, як і выніковы іншых расследаванняў, грамадскасць павінна ведаць. Дыверсію супраць цэнтра праваабаронцы разглядаюць як супрацьдзеянне сілаў, зацікаўленых у тым, каб вінаватыя ў трагедыі пазбеглі адказнасці. «Вясна-96» працягвае прымаць інфармацыю пра падзеі 30 траўня па сваім тэлефоне 239-31-17. ■

# Арыштавалі «галоўнага фінансавага кансультанта»

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**У Мінску арыштаваны прадпрымальнік і фінансіст Эдуард Эйдзін. Ён вядомы як стваральнік праграмы эканамічнага развіцця Беларусі з дапамогай эмісіі. Праграма, як вядома, з трэскам правалілася. Відаць, дайшла чарга і да яе аўтара.**

Эйдзін кіраваў «Незалежнай кансалтынгавай групай», быў членам праўлення банка «Поіск». Па звестках, у апошні час ён дапамагаў ураду ствараць залаты запас. Група Эйдзіна была пасярэднікам у здзелцы па пастаўках у Казахстан БелАЗаў у абмен на золата. План кантраляваў асабіста старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, аднак і гэта не дапамагло. Паводле незалежных крыніцаў, частка золата нібыта «прыліпла» да рук Эйдзіна з кампаньёнамі. Кіраўнік групы і два ягоныя намеснікі па рашэнні пракуратуры краіны былі арыштаваныя.

Па звестках, Эйдзіну прад'яўленае папярэдняе абвінавачванне ў крадзяжы ў асобa буйных памерах і незаконным прадпрымальніцтве. У друк ужо прасачыліся звесткі, што па гэтай жа справе ў якасці сведкі быў дапытаны Пётр Пракаповіч. Пачалі цыркуляваць чуткі як меншае пра адстаўку гэтага вядомага сваёй набліжанасцю да А.Лукашэнкі банкіра.

Тое, што справа Эйдзіна звышсур'ёзная і звышсакрэтная, даказвае наступная прыкмета — былы «кансультант» утрымліваецца ў спецтурме КДБ «амерыканка», дзе 2 гады таму сядзела Тамара Вінікава. ■

# За Мікалуцкага просяць 15 гадоў турмы

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Днямі будзе абвешчаны прысуд тром жыхарам Магілёва, якіх абвінавачваюць у забойстве прэзідэнцкага кантралёра Яўгена Мікалуцкага. На закрытым працэсе ў Вярхоўным судзе ўжо ідуць так званыя судовыя спрэчкі, калі абвінаваўчы бок і абарона абменьваюцца аргументамі. Па звестках з суда, пракурор выказаўся за прызнанне ўсіх трох падсудных вінаватымі ў падрыхтоўцы забойства Мікалуцкага. За гэта пракурор патрабуе даць Віктару Янчэўскаму 15 гадоў турмы, Анатолю Гаўрылаву — 8, Раману Радзікоўскаму — 5 гадоў. Суддзям засталося выслухаць апошнія прамовы абвінавачаных і прыняць рашэнне.

Нагадаем, суд над «забойцамі» Мікалуцкага ідзе за закрытымі дзвярыма, уся інфармацыя пра тое, што адбываецца на працэсе, трымаецца ў сакрэце. Нават маці абвінавачаных толькі праз некалькі дзён пасля выступу пракурора даведаліся, якое пакаранне пагражае іх сынам. Тым не менш да нас ужо дайшлі звесткі, што частка сабраных следчымі доказаў віны Янчэўскага, Гаўрылава і Радзікоўскага не пацвердзілася. Вядома таксама, што члены судовай калегіі ў прыватных гутарках прызнаюць справу аб забойстве Мікалуцкага «сфальсіфікаванай». ■

ВАЙНА

# Перамовы па Косава скончыліся нічым

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Перамовы паміж NATO і Югаславіяй у Куманава (Македонія) аб вывадзе сербскіх войскаў з Косава былі перапыненыя зранку ў панядзелак па ініцыятыве югаслаўскага боку.

Як заявіў кіраўнік дэлегацыі NATO брытанскі генерал Майк Джэксан, югаслаўскі бок прапанаваў умовы, якія не могуць гарантаваць бяспеку ні для ўцекачоў, ні для міжнародных сілаў.

План прадугледжваў, у прыватнасці, адвод югаслаўскіх войскаў з Косава на працягу 7 дзён і вывад усіх сістэмаў супрацьпаветранай абароны на працягу 48 гадзінаў. NATO прапанавала ўвесці ў Косава міжнародныя сілы ў складзе 50 тысяч чалавек пад камандаваннем альянсу. Аднак югаслаўскі бок патрабаваў больш часу на вывад войскаў, а таксама – абарону ад нападу баевікоў з Арміі вызвалення Косава. У выніку пагадненне так і не было падпісанае.

Сёння ўжо 74-ы дзень натаўскіх бамбардзіровак Косава. Газета Financial Times падлічыла, што на югаслаўскую кампанію ўжо было патрачана каля 7 мільярдаў долараў. Тым не менш, такая сума пакуль не аказвае сур'ёзнага ўплыву на фінансавыя рэсурсы краінаў-чальцоў NATO. Эканаміст Джон Левелін з кампаніі Lehman Brothers ацэньвае штодзённыя страты NATO на аперацыі ў Югаславіі ў 100 мільёнаў долараў. У асноўным, гэта грошы ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі. ■



ЦЫТАТА НУМАРА

> **Дисциплина… С этим у них полный порядок. Меры к нарушителям порядка применяются жесткие. Если мы боремся с преступностью, то там ее уничтожают. За месяц до нашего приезда у них публично расстреляли четырех человек из тех, кто был схвачен на месте преступления. А до этого, рассказывают, на стадионе расстреляли 200.**
>
> *Владимир РОМАНОВСКИЙ, председатель Бобруйского горисполкома. Из выступления на пресс-конференции по итогам поездки в Китай, 4 июня 1999г.*

# Восем чалавек усё яшчэ ў цяжкім стане

**Язэп СІНІЦКІ**

Учора Беларусь адзначала дзевяць дзён па ахвярах трагедыі на Нямізе. Як паведамілі нам у Мінгарвыканкаме, цяпер у шпіталях горада знаходзяцца 113 чалавек, пацярпелых у пераходзе на Нямізе. У асноўным гэтыя людзі пакутуюць ад розных траўмаў і пераломаў, а таксама ад наступстваў удушша. Многім пацярпелым аказваецца псіхалагічная дапамога. Восем чалавек у досыць цяжкім стане знаходзяцца ў рэанімацыі. Як сцвярджаюць чыноўнікі сталічнага гарвыканкама, ніхто з ахвяраў трагедыі ў бальніцах не паміраў. Тым часам на разліковы рахунак фонду дапамогі людзям, пацярпелым у падземным пераходзе, ужо пералічана больш за 41 мільярд рублёў. ■

# Дапамога ад банка

**Аддзел інфармацыі**

Рашэнне аказаць мэтавую дабрачынную дапамогу кожнай сям'і загінуўшых 30 траўня прыняло кіраўніцтва банка «БелБалтыя». Памер дапамогі кожнай сям'і складзе 20 млн. рублёў. Для яе атрымання можна звяртацца па адрасе: Мінск, Прывакзальная плошча, 4, гасцініца «Экспрэс», 301-ы кабінет.

У сваю чаргу пракуратура Мінска паведаміла, што вялікая колькасць рэчаў, страчаных грамадзянамі падчас цісканіны ў пераходзе, знаходзіцца па адрасе: Мінск, вул. Шчадрына, 1. Пра гэта можна даведацца па тэлефонах (017) 213-00-67, 213-06-33. ■

# За абразу прэзідэнта — «крыміналка»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Дэпутат Вярхоўнага Савета Павел Знавец не знаходзіцца ў вышуку. Такую інфармацыю карэспандэнту НАВІНАЎ паведамілі ў пракуратуры Цэнтральнага раёна горада Мінска. Адначасова з дасведчаных крыніцаў стала вядома, што падчас затрымання Знаўца на мінулым тыдні яму была даведзеная інфармацыя аб тым, што супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па факце абразы прэзідэнта падчас выступу на мітынгу 2 красавіка. Таксама дэпутата звазілі ў РАУС Маскоўскага раёна і нагадалі, што ім дасюль не сплачаны штраф у памеры 13 мільёнаў рублёў, якія спадар Знавец паабяцаў выплаціць у бліжэйшыя дні, пасля чаго яго адпусцілі з умовай, што ён добраахвотна будзе з'яўляцца на допыты. ■

СПОРТ

# Югаслаўскіх футбалістаў не пусцілі ў Ірландыю

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У суботу, 5 чэрвеня, не адбыўся запланаваны па календары UEFA адборачны матч чэмпіянату свету паміж зборнымі Ірландыі і Югаславіі. Югаслаўскіх футбалістаў проста не пусцілі на тэрыторыю Ірландыі. Як патлумачыла кіраўніцтва федэрацыі футбола гэтай краіны, урад Ірландыі займае вельмі жорсткую пазіцыю да сербаў з-за таго генацыду, які яны ўчыняюць на тэрыторыі Косава, і мець нейкія зносіны з гэтай краінай было б для іх адступленнем ад прынцыпаў. Таму ўрад і загадаў міністэрству юстыцыі не пацвярджаць уязных візаў футбольнай дэлегацыі югаславаў.

Цікава, якую пазіцыю ў гэтым выпадку зойме UEFA, афіцыйны кіруючы орган еўрапейскіх футбольных федэрацыяў — залічыць паражэнне ірландцам, якія яўна парушылі футбольнае заканадаўства, або перанясе сустрэчу на больш позні тэрмін. У любым выпадку гэта стала яшчэ адным яскравым прыкладам таго, што ў наш час спорт не можа быць па-за палітыкай. ■

# Чаканні не спраўдзіліся

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У чарговым адборачным матчы чэмпіянату Еўропы па футболе зборная Беларусі сустракалася ў гасцях з камандай Даніі.

Пасля вельмі ўдалай гульні з італьянцамі два месяцы таму беларускія аматары спорту з надзеяй чакалі гэтага матча, мяркуючы ўбачыць прывабную гульню нашых футбалістаў. На жаль, спадзяванням не наканавана было спраўдзіцца. Параза з лікам 0:1 і абсалютна бяззубая гульня, з якой на чэмпіянаце Еўропы рабіць няма чаго.

Па словах галоўнага трэнера беларускай каманды Мікалая Вергіенкі, «хлопцы «перагарэлі» і правялі свой найгоршы матч у гісторыі».

Пасля гэтай паразы зборная Беларусі страціла ўсе, нават тэарэтычныя шанцы трапіць на фінал спаборніцтваў, якія пройдуць у чэрвені 2000 года ў Галандыі і Бельгіі. ■

 



ГРАМАДСТВА

# Дыягназ — «беларус»?

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Палітыка русіфікацыі Беларусі, якую вось ужо чатыры гады праводзіць у краіне Аляксандр Лукашэнка, часам набывае проста пачварныя формы. Што такое парушэнне нацыянальных правоў беларусаў у сябе на Радзіме, на ўласным вопыце адчула вядомая паэтка і спявачка з Гомеля Вольга Цярэшчанка-Яўсеенка.**

Выхавацелі-лагапеды гомельскага дзіцячага садка «Верасок», куды да траўня гэтага года хадзіў пяцігадовы сын Вольгі, Францішак, прызналі хлопчыка псіхічна нездаровым. Справа ў тым, што Францішак выхоўваецца ў беларускамоўнай сям'і і фактычна не ўмее гаварыць па-руску. На гэтай падставе лагапед вышэйшай катэгорыі Наталля Прымакова паставіла хлопчыку «дыягназ» — «запаволенае моўнае і псіхічнае развіццё», ды накіравала Франака ў спецыяльную дзіцячую групу для слабаразумовых дзяцей. Лагапед Прымакова зрабіла сваё заключэнне аб запушчанасці сына Вольгі толькі на той падставе, што дзіця не ведае па-руску назвы некаторых прадметаў, а значыць, «слаба арыентуецца ў навакольным асяроддзі». Прычым тэставанне Францішка лагапед праводзіла не ў прысутнасці бацькоў і, натуральна ж, на рускай мове. А на пытанне Вольгі, ці валодае яна беларускай мовай, Наталля Прымакова заявіла, што дзяржаўнай мовы не ведае і ведаць не жадае. Маўляў, мне вашая мова непатрэбная, а ўсе лагапедычныя праграмы ў Беларусі складзены па-руску. Праўда, непасрэдная начальніца Прымаковай, загадчыца дзіцячага садка «Верасок» спадарыня Кузьміна сказала, што мову беларускага народа ведае, аднак нічога для Францішка не можа зрабіць, бо садок рускамоўны і беларускіх групаў у ім няма. Абражаным бацькам Францішка нічога не заставалася, як забраць сына ад такіх «выхавацеляў».

У сваёй заяве, накіраванай у Беларускі Хельсінкскі камітэт, Вольга Цярэшчанка-Яўсеенка адзначае, што супрацоўнікамі дзіцячага садка былі парушаны адзін з асноўных артыкулаў Канстытуцыі Беларусі — іх дзіця пазбаўленае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове, а бацькам нанесеная маральная шкода. На думку маці малога Францішка, калі развіццё такіх антынацыянальных тэндэнцыяў у грамадстве не будзе спыненае, то ўсе беларускамоўныя дзеці ў хуткім часе могуць апынуцца ў псіхіятрычных шпіталях з дыягназам «беларус». З Вольгай цяжка не пагадзіцца, але пытанне ў іншым: чым можна дапамагчы гэтай сям'і, а таксама і многім іншым бацькам, пазбаўленым права даць сваім дзецям адукацыю па-беларуску. Па словах прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэта, ім вельмі цяжка ў такой сітуацыі нават апеляваць да міжнародных арганізацыяў і грамадскасці. Справа ў тым, што заходнія праваабаронцы часам проста не могуць зразумець, як гэта ў Беларусі можа парушацца права асноўнага народа краіны на развіццё сваёй роднай мовы.



Фота Ул. ШЛАПАКА/архіў

Хто не ведае рускай мовы — той псіхічна ненармальны. Так лічаць русіфікатары

А тым часам задушэнне беларускамоўнага школьніцтва ў краіне ўсё набірае і набірае тэмпы. Як адзначаецца ў распаўсюджаным каментары службы маніторынгу БХК, толькі з 1994 па 1999 год у Беларусі ліквідавана каля шасцісот беларускіх школаў. У Мінску няма ніводнай школы з беларускай мовай навучання, у Гродне засталася толькі адна такая навучальная ўстанова, у Магілёве і Гомелі наогул не праводзяць набораў у беларускія класы. Цалкам знішчана сістэма дашкольных беларускамоўных установаў. Цяпер толькі раз на тыдзень у дзіцячых садках праводзяцца т.зв. «беларускія дні», калі дзеткі могуць паразмаўляць на роднай мове.

Прадстаўнікі БХК таксама адзначаюць, што ў школах краіны скажаецца беларуская культурная спадчына і гісторыя. Згодна з загадам міністэрства адукацыі, са школьных праграмаў выключаны творы вядомых пісьменнікаў Ларысы Геніюш і Наталлі Арсенневай, а таксама звесткі пра вызваленчыя антырасійскія войны XVI—XX стагоддзяў. Ёсць факты неаднаразовага збіцця людзей міліцыянтамі толькі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску. А дзяржава тым часам заклапочаная толькі падтрымкай расійскага культурнага ўплыву ў Беларусі. ■

СУСЕДЗІ

# Украинские олигархи

Отдел информации

Киевский институт политики выпустил список украинских олигархов, оказывающих значительное влияние на общественную жизнь в этом государстве. По мнению авторов списка, эти люди контролируют по меньшей мере одну парламентскую фракцию, группу, политическую партию, общественную организацию, канал национального телевидения или радио или периодическое издание и будут играть решающую роль во время президентских выборов 31 октября 1999 г. Первое место в списке занимает Игорь Бакай, возглавляющий национальное акционерное общество «Нефтегаз Украины». Он контролирует фракцию «Возрождение регионов», телеканал ICTV и газету «Сегодня». Вторым идет Александр Волков, депутат Верховной Рады и советник президента Украины по внутренней политике, который контролирует три партии страны, а также два телеканала и радио «Европа плюс». Третий — Виктор Пинчук, депутат Верховной Рады, контролирующий фракцию «Рабочая Украина» и газету «Факты». Четвертое место у Вадима Рабиновича, президента Всеукраинского еврейского конгресса. Он имеет влияние на ТВ, радио, информагентство и две столичные газеты. Пятым в списке — Григорий Суркис, депутат и почетный президент футбольного клуба «Динамо Киев». ■

МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публиковать результаты социологических опросов, проводимых лабораторией «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос проводился с 26 апреля по 3 мая 1999 г. Репрезентативная выборка – 1.094 человека.**

# Кому мы доверяем?




Если первенство в рейтинге доверия государственным и общественным институтам и организациям бессменно удерживает православная церковь, то в остальном список за последний месяц претерпел значительные изменения. После внесения в список протестантской церкви она заняла последнее место в опросе по республике, «опередив» постоянных аутсайдеров – Палату представителей и Совет республики. Здесь налицо слабая информированность населения о деятельности и самой сути протестантской церкви.

Что же касается Национального собрания, то само время расставляет все по своим местам. До рокового референдума 1996 года рейтинг доверия Верховному Совету практически не опускался ниже 5 места, а рейтинг Национального собрания и двух его палат в отдельности не поднимается выше пятой строки снизу.

Опросы по Минску радикально отличаются от опросов по республике. Минчане постепенно утрачивают доверие к институту президентства в стране. На сегодняшний день выше президента находятся католическая и православная церкви, армия и независимые средства массовой информации. Подобная ситуация, когда независимые СМИ вышли на второе место в опросах по Минску, была лишь один раз – когда в тюрьме находился Павел Шеремет. Сегодня уже не один телевизионный корреспондент находится под ударом, а все СМИ. Это не замедлило сказаться на рейтинге – ведь народ всегда больше любит тех, кого не любит власть. ■

ПОШТА

# Нам нужен президент с ясной головой и добрым сердцем!

*Окончание. Начало на стр.1*

И бежать им было некуда, кроме как в эту смертельную щель — туннель. Защищать людей наша доблестная милиция не обучена, только разгонять молодежь дубинками на демонстрациях. И товарищ Сиваков, со зверообразным лицом, на котором написано «не пущать», «запрещать», «не разрешать», говорит, что виноваты женские каблучки, которые были на ногах погибших девочек-«козочек». Дай ему волю, он всю молодежь обует в лапти или кирзовые сапоги. А ведь были уже сигналы по безопасности праздников. Года полтора тому во Дворце профсоюзов во время праздника молодежи случился пожар, тоже погиб человек и несколько молодых людей были госпитализированы, все ринулись к закрытым дверям. Но урок не пошел на пользу, никто не ответил за это, нет виновных, по-прежнему сидит директор дворца на своем месте, во время праздников нет мер безопасности, хотя более половины дворца занимают коммерческие структуры и собирают деньги с детских платных кружков.

Погибла молодежь, золотой фонд нашей нации, которую мы должны беречь как зеницу ока. Мы вручили ее Вам, президент, и не только ее — всю страну. Не можете обеспечить безопасность ни в политике, ни в экономике, ни в жизни, — уходите, дайте дорогу другим. И шрамы на Вашем сердце, о которых Вы говорите, нам не интересны, нам нужен президент с ясной головой и добрым сердцем, настоящей заботой о людях.

Впереди еще много помпезных праздников, не для людей, а для собственного удовлетворения. Но, пока будет эта власть, мы своих детей на президентские праздники не пустим.

***Женщины-матери Нина АПАНАСЕВИЧ, Ольга КЛИМОВИЧ, Роза ТАТЬЯНИНА и др.***

УСХОДНІ НАПРАМАК

# Інтэгратары спяшаюцца

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Афіцыйныя Мінск і Масква не пакідаюць надзеі ажыццявіць свой праект па стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы. Да канца чэрвеня рабочыя групы па падрыхтоўцы тэкста саюзнай дамовы павінны прадставіць прэзідэнтам Ельцыну і Лукашэнку канчатковы варыянт гэтага дакумента.**

Дзеля ўзгаднення некаторых юрыдычных аспектаў будучай саюзнай дамовы ўчора ў Маскву накіравалася група беларускіх экспертаў-юрыстаў на чале з дэпутатам прэзідэнцкай палаты прадстаўнікоў Аляксандрам Шпілеўскім. Які праект дамовы ўзяты за аснову — пакуль трымаецца ў таямніцы. Нагадаем, што падчас апошняй сустрэчы Лукашэнкі і Ельцына ў канцы красавіка ў Крамлі бакі не прыйшлі да згоды па гэтым пытанні. Расіяне настойвалі, каб будучай саюзнай дзяржавай кіраваў вышэйшы савет, у які б уваходзілі прэзідэнты, прэм'ер-міністры і кіраўнікі парламентаў Беларусі і Расіі. Лукашэнку такі варыянт не задавальняў, і ён настойваў, каб гэтым славянскім саюзам кіраваў адзіны прэзідэнт, якога павінны абраць грамадзяне абедзвюх краінаў, і створаная ім прэзідэнцкая вертыкаль на месцах. Іншымі словамі, беларускі прэзідэнт проста хацеў перанесці створаную ім у Беларусі мадэль выканаўчай улады на ўсю тэрыторыю ад Буга да Курылаў.

І вось 4 чэрвеня пытанне стварэння новай саюзнай дзяржавы паўстала зноў. Аляксандр Лукашэнка ініцыяваў яго падчас сустрэчы з новым расійскім ыпрэм'ерам Сяргеем Сцяпашыным. Той прызнаўся, што перад адлётам у Мінск Барыс Ельцын даў яму наказ «працаваць з беларускімі братамі адкрыта і сумленна». Лукашэнка быў вельмі задаволены такім падыходам Масквы да інтэграцыі. Па нашых звестках, беларускі прэзідэнт цяпер можа і пагадзіцца з варыянтам дамовы, які Крэмль прапаноўваў раней. Аляксандр Лукашэнку неабходна як мага хутчэй падпісаць дакумент аб стварэнні з Расіяй адзінай дзяржавы. Калі яму гэта ўдасца, то і пасля 20 ліпеня Лукашэнка не страціць сваёй легітымнасці, паколькі Беларусь стане суб'ектам іншай саюзнай дзяржавы. ■

 

# Руйнавалі чужое — страцілі сваё

**Канстанцін СУРЫН**

**Стагоддзе назад тысяча старажытных сядзібаў стварала на Беларусі прыцягальны абшар шляхецкай культуры. У сядзібных палацах захоўваліся родавыя архівы, канцэнтраваліся унікальныя кніжныя зборы, выдатныя мастацкія калекцыі. Што засталося ад той культуры нам у спадчыну? Вядомы беларускі даследнік, прафесар Анатоль ФЕДАРУК адказвае на пытанні НАВІНАЎ.**

***— Ведаю, спадар Анатоль, што вы прысвяцілі трыццаць гадоў жыцця даследаванням гісторыі старых сядзібаў і паркаў. Якія, на вашую думку, тут існуюць праблемы грамадскага значэння?***

— Сядзібныя ансамблі былі бліскучай аздобай Беларусі. Дастаткова пагартаць знакаміты альбом малюнкаў Напалеона Орды, каб запаліцца жаданнем убачыць старыя Смілавічы, дзе гадаваўся Станіслаў Манюшка, Нясвіж і Прылукі з іх легендарнымі кладамі, знакамітую Гануту, якую стваралі князі Гальшанскія, сядзібу Гарадзілава, з якой злучана імя выдатнай пісьменніцы Альбіны Пузыны. Сэнс майго даследавання палягаў у асэнсаванні старадаўніх сядзібаў як цэласнай культурнай з'явы – ад пабудова да наваколнага ландшафту і гісторыі ўладальнікаў. Зніклага багацця, на вялікі жаль, нашмат болей, чым захаванага. Часам у экспедыцыях мяне ахоплівала пачуццё, што на месца культуры, засведчанай успамінамі і мемуарамі, прыйшла іншая цывілізацыя — невідушчая, малапісьменная і жорсткая.

***— Відаць, не памылюся, калі скажу, што гэта неаспрэчна пацвярджаецца руінамі?***

— Зруйнаваныя будынкі, разламаныя капліцы, зніважаныя пахаванні, дачная забудова на тэрыторыі былых рэгулярных і пейзажных паркаў, камуналкі ў ранейшых палацах, паўсюдны шыфер замест дранкі і чарапіцы — вось нашая сённяшняя гаспадарлівасць. Прыкладам, з даследаваных 230 сядзібаў Міншчыны болей за 100 страчаны цалкам. Калі не ведаць архіўны, літаратурны, іканаграфічны матэрыял, дык часта на месцы вядомай сядзібы можна думаць, што тут з часоў крыжацкіх наездаў людзей не было. А калі ведаеш, якое раней віравала жыццё, якія выдатныя збіраліся асобы, але бачыш замест палаца некалькі камянёў, замест каштанавай алеі — заасфальтаваную дарогу, замест бруістай крыніцы — груду смецця, блага робіцца ад нашага глупства, якое руйнуе прыгажосць, шанаваную Валенцiем Ваньковічам, Напалеонам Ордам, Янам Дамелем, Фердзінандам Рушчыцам, Юзэфам Крашэўскім, Уладзіславам Сыракомлем.

***— Такія пачуцці, на жаль, выклікае стан бальшыні нашых старажытных помнікаў. Многія людзі не могуць стрымаць слёзы, калі ўпершыню бачаць, прыкладам, асуджаныя на разбурэнне унікальны палац у Радзівілімонтах ці палац Сапегаў у Ружанах. А што асабіста вам найбольш шкада са страчанага?***

— Самая значная нашая страта — Радзівілаўская Альба. Страчаны амаль цалкам усе калекцыі, што назапашваліся стагоддзямі. Падчас войнаў загінулі ці былі вывезеныя ўсе бібліятэкі. Археалагічны музей братоў Тышкевічаў у Лагойскай сядзібе лічыўся найлепшым зборам старажытнасцяў, нам ад яго не засталося нічога. Сёння мала хто прыгадае, каму належала сядзіба Вялікая Сляпянка ў Мінску і якія карціны маляваў тут Валенцій Ванькові. Шкадую, што не захаваўся паркавы лабірынт, які ўласнымі рукамі ствараў у Сехнавічах Тадэвуш Касцюшка. Я падрыхтаваў да выдання кнігу — вынік апошніх дзесяці гадоў працы. Разам з мастакамі Вольгай Бугаенка і Міколам Чаркасавым мы правялі графічную рэканструкцыю шэрагу сядзібаў, аднаўляючы іх пачатковы выгляд. Вельмі радуюся, што з падказкі і з дапамогаі пісьменніка Кастуся Тарасава створаная схема сядзібы Альба.

Альба мела еўрапейскую вядомасць нараўне з вядомымі пастаральнымі вёскамі Рамбуйе і Трыанон французскай каралевы Марыі Антуанеты. У 1784 годзе ў гонар прыезду ў Альбу караля Станіслава Панятоўскага тут на возеры быў разыграны грандыёзны марскі бой. Госці Радзівілаў мусілі пераапранацца ў сялянскае адзенне, працаваць у полі, спяваць вясковыя песні, адным словам, іграць пастаральныя ролі. Для аматараў палявання на радзівілаўскіх гутах вырабляліся шкляныя лебедзі, якія не танулі ў вадзе і па якіх вялі прыцэльную страляніну паляўнічыя. Менавіта для паездак у Альбу з Нясвіжа летам на санях дарогу пасыпалі соллю. Цэнтр сядзібы займала трох'ярусная Альтана, якая нагадвала храм Святой Сафіі ў Стамбуле. Пры парку меўся звярынец, вальеры для экзатычных птушак, водная сістэма, створаная на рацэ Уша, не мела сабе роўных на Беларусі.

***— А ці захаваліся ў нас паркі, на якія можна падзівіцца сёння?***

— Уражвае парк у вёсцы Свіслач Гродзенскага раёна, які некалі быў закладзены пры маёнтку, а зараз намаганнямі мясцовых уладаў адроджаны. Выдатны парк захаваўся ў Эльмонтах на Віцебшчыне. Надзвычай прыгожы парк створаны ў Мосары Пастаўскага раёна. Мясцовае насельніцтва на чале з ксяндзом ператварыла 2 га непрыдатных земляў у цудоўны кут. Пакуль што шанцуе на дагляд Нясвіжскім і Сноўскаму паркам. Агульная бяда ў тым, што старыя паркі атрымоўваюць 3-ю катэгорыю каштоўнасці (мясцовае значэнне). А мясцовыя ўлады не маюць патрэбных грошай, спецыялістаў ці не могуць прыдумаць прыстасавання такім каштоўнасцям.

***— А сапраўды, якое прыстасаванне можа знайсці для парку сельскі савет?***

— Усё залежыць ад дасведчанасці людзей. У наступным стагоддзі людзі больш ацэняць чысціню вады, прыгажосць сажалак, паркаў. Сёння толькі пачынаецца асэнсаванне наступстваў нашага непісьменнага прагматызму. Напрыклад, праехаць 15 кіламетраў гацямі па балотах — незабыўнае падарожжа, знайшлося б шмат ахвотнікаў заплаціць вялікія грошы за такую вандроўку. Але хто захоча ехаць 15 вёрст па асушанай пыльнай зямлі, у якую ператвораны былыя балоты Палесся? Людзі шукаюць прыгожыя куткі, іх цягне туды інстынкт любові да прыроды, якая іх стварыла. Першым домам чалавека было дрэва, і ніякі гарадскі дабрабыт не здолее вытравіць гэтае карэннае пачуццё.

Мы доўгі час руйнавалі тое, што па ідэалагічных падставах называлася панскай культурай. У выніку абрабавалі самі сябе. І таму замест палацаў эпохі Рэнесанса і барока, замест старадаўніх паркаў маем альбомы пра іх, разглядаем малюнкі замест натуры. Паколькі самі знішчалі, дык самі, пакуль жывыя, павінны паклапаціцца, каб нашым дзецям засталося хоць бы не меней, чым пабачылі мы. ■




● Чытачы НАВІНАЎ — першыя, хто бачыць від Альбы часоў князя **Міхала Радзівіла (Рыбанькі)**, ягонай жонкі, пісьменніцы **Францішкі Уршулі**, іхнага сына **Караля (Пане Каханку)**. Альбе прысвечана шмат літаратуры, аднак тагачасных замалёвак сядзібы не захавалася. Прапануемы малюнак — першая спроба ўяўлення гэтага беларускага цуда.

**ЗАМЕЖЖА**

## Бывший президент Литвы отдыхает на «Тине»

**Егор ИВАНОВ**

Экс-президент Литвы Альгирдас Бразаускас ходит под парусом на калининградской яхте, построенной пять лет назад. Тогда судно называлось «Гранат», а сейчас на ее борту красуется другое имя — «Тина».

Бразаускас держит ее в Ниде на Куршской косе. Калининградские яхтсмены эту 9-метровую яхту хорошо знают. Это одна из трех крейсерских яхт, которые были сделаны по оригинальному проекту. На ней шесть спальных мест. Этим летом «Тина» с ее титулованным капитаном снова может появиться в Калининграде. ■

## Ужин века будет стоить 2.000 фунтов стерлингов

**Егор ИВАНОВ**

2.000 фунтов стерлингов с человека намерен брать за ужин 31 декабря 1999 года шеф-повар знаменитого парижского ресторана «Люка-Картон» Ален Сандеран. Мэтр намерен в ночь накануне нового тысячелетия организовать в замке Шантийи новогодний ужин на 380 персон. Чтобы попасть на это мероприятие, достаточно заплатить символическую сумму.

Такую цену за право отужинать шеф-повар объясняет тем, что на нем будут подаваться лучшие вина и блюда уходящего века. В меню, составленном Сандераном, первым пунктом идет омар и «Монташе» урожая 1990 года, стоимость которого составляет около 20 фунтов стерлингов за бутылку.

Изысканнейшие блюда французской кухни будут сопровождать: «Петрюс» урожая 1990 года (400 фунтов за бутылку), «О-Брион» урожая 1982 года (120 фунтов за бутылку), «Лятур» урожая 1970 года (150 фунтов), «Романе-Конти» 1971 года (1.500 фунтов за бутылку) и «Икем» урожая 1967 года (280 фунтов). Кроме того, когда часы пробьют полночь, гостям будет подано неограниченное количество шампанского. ■

## Террорист-журналист

**Отдел информации**

Знаменитый венесуэльский террорист Ильич Рамирес Санчес, он же «Карлос» и «Шакал», отбывающий пожизненное заключение в одной из парижских тюрем, опубликовал первую статью в венесуэльском журнале «Расон». Предполагается, что в этом еженедельнике у него будет своя регулярная колонка.

Первая статья посвящена проблеме Косово. В ней осуждается «империалистическая агрессия против Сербии и Черногории».

«Европейские «союзники» все без исключения ведут войну, не имея на то разрешения от парламентов своих стран», — пишет Карлос. Террорист утверждает, что эта агрессия «не только незаконна с точки зрения международного права, но и антиконституционна». Единственным законным оправданием этих действий служит, по его словам, пропаганда, которую ведет NATO.

В декабре 1997 года «Шакал» был приговорен к пожизненному заключению за убийство в 1975 году двух сотрудников французской контрразведки и одного из их осведомителей. ■

## Антинатовская татуировка

**Егор ИВАНОВ**

Молодой житель Румынии в знак протеста против натовских бомбардировок в Косово сделал себе татуировку во всю спину.

23-летний Стефан Маре нанес себе подкожный рисунок, изображающий цветную карту Европы. На юго-востоке континента, в том месте, где у Стефана находится правая почка, изображена Югославия в виде истекающего кровью пятна. Рядом большими буквами красного и черного цвета по-румынски написано: «Хватит!»

«Я просто хотел продемонстрировать свою солидарность с сербским народом и обвинить тех, кто убивает своими бомбами мирных жителей», — сказал этот житель города Клуж.

Несмотря на то, что официальная Румыния поддерживает политику NATO, большая часть населения этой страны выступает против бомбовых ударов по Югославии. ■

**ПОШТА**

## Чем хуже живем, тем больше — «гуляць, дык гуляць»

***Здравствуйте, уважаемая редакция!***

Сердце преисполнено горечью по погибшим в переходе минского метро. В этой связи считаем кощунственными рассуждения президента об промилле алкоголя в крови пострадавших, прозвучавшие в форме оправдания. Так за что он оправдывается? Потому что знает: политика «шкваркі-чаркі», вышибающая из людей «хмельные деньги» для дырявого бюджета, толкнула страну в тотальную пьянку...

...Стыдно, господин президент! И в ГУМе, и в ЦУМе, и в «Товарах для женщин» среди подтяжек и булавок, и в «Военторге», среди телевизоров и солдатских пуговиц, с утра до вечера развернули торговлю отделы, продающие вино и водку. «Славянские базары» и «Дажынкі», «Купалли» и «Пивные смаги» — чем хуже живем, тем больше «гуляць, дык гуляць»!

***С уважением, семья ГОРОВЕЦ***

## Нацыю спойваюць!

***Паважаная рэдакцыя!***

Піша Вам чалавек, які прайшоў сам гэты цяжкі шлях злоўжывання алкаголем і нават цяпер поўнасцю не пазбавіўся ад гэтай хваробы.

30 траўня здарылася трагедыя, і вось якія думкі завалодалі мной. Як жа можна так ненавідзець свой народ, усё беларускае, каб рабіць такія ўчынкі, як спойванне маладога пакалення, нашай будучыні, бо пацярпелі ў асноўным маладыя людзі да васемнаццаці гадоў і яшчэ жахлівей — дзяўчаты, будучыя маці.

Мне здаецца, што гэтак усё можа скончыцца знішчэннем нацыі.

***З павагай, Анатоль ЦІМАФЕЕЎ***



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 555 Нумар падпісаны ў друк 07/06/99 (15:00) Наклад — 17.450